Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 4. Вільня, Нядзеля, 24-га лютага 1924 г. Год I.

## На руінах беларускае школы.

У сваім імкненьні да поўнага зьніштажэньня беларускае нацыянальнасьці ў межах Польскае Рэспублікі польская дзяржаўная ўлада сваей „баявой“ задачай паставіла зьніштажэньне перш за ўсё беларускае нацыянальнае асьветы.

І трэба прызнаць, што гэтую сваю задачу яна давяла да лёгічнага канца.

За часоў маскоўскага царызму беларуская школа была абсалютна забаронена. Спробы стварыць яе былі абвешчаны „праступленьнем проці дзяржавы“. За ўчасьце ў арганізацыі вучыцялёў-беларусаў, якія імкнуліся да здабыцьця права на навуку беларускіх дзяцей у іх роднай мове, цэлы рад асоб быў засуджаны ў Менску ў 1907 годзе на 2—3 гады крэпасьці, у тым ліку і наш вялікі пясьняр Якуб Колас (Кастусь Міцкевіч). За такі-ж „праступак“ была выдалена чысьленая група беларусаў-вучняў Маладэчанскае, Полацкае, Сьвіслацкае і Панявежскае вучыцельскіх сэмінарыяў. Ды шмат іншых рэпрэсіяў памятаюць беларусы з тых часоў за прапаганду ідэі нацыянальнае школы....

Але імкненьне да роднае школы, ня гледзечы на ўсе забароны і перашкоды, ня толькі не зьмяншалася, а абыймала ўсё шырэйшыя колы нашага народу. І калі ў 1915 годзе расейцы пакінулі Віленшчыну і Горадзеншчыну,—тут, ня гледзечы на „бежанства“ блізу ўсіх культурных сіл, распачаўся магутны рух у кірунку тварэньня беларускіх школ. У 1917 годзе ў Віленшчыне і Горадзеншчыне былі створаны 153 беларускія пачаткавыя школы, вучыцельскія курсы ў Вільні і вучыцельская сэмінарыя ў Сьвіслачы.

Праз тры гады пазьней, у першы пэрыяд істнаваньня „Сярэдняе Літвы“, пакуль да ўраду яе ўваходзіў адзін беларус, у Віленскім і Ашмянскім паветах дружным высілкам беларускага грамадзянства паўстала звыш 200 беларускіх пачаткавых школ і вучыцельская сэмінарыя ў Барунах.

Апрача таго, ад 1917 году былі закладзены 6 беларускіх гімназіяў: у Вільні, Наваградку, Несьвіжу, Будславе, Гарадку, Радашкавічах.

Дзе-ж цяпер ўсё гэта?

Вось, польская дзяржаўная ўлада з поўным правам можа пахваліцца, што ўсё гэта зьнішчана яе рукамі. Пачатковая беларуская школа *ня істнуе*: з ліку гэных 350 школ *асталося ня больш дзесяцёх*. З трох вучыцельскіх сэмінарыяў не асталося *ніводнае*. З шасьцёх гімназіяў *улада зачыніла тры*.

*Тры гімназіі*, якія яшчэ істнуюць, хаця і пазбаўлены праву „публічнасьці“, *ды каля дзясятку пачаткавых школ*—вось усё, што асталося ад беларускае асьветы *на тры міліёны беларусаў пад уладай Польшчы*. Там, дзе красавалі беларускія школы, або дзе народ сваімі прыгаворамі дамагаўся гэткіх школ, польская ўлада, патаптаўшы волю народу і зламаўшы сваю ўласную канстытуцыю, гвалтам навязала беларусам чужую і нялюбую ім польскую школу.

Зусім натуральным адказам на гэта з боку нашага сялянства была адмова пасылаць сваіх дзяцей у польскія школы. Але тады выступіў на сцэну „дэмакратычны“ польскі *закон аб школьным прымусе: беларускіх сялян гвалтам прымушаюць вучыць сваіх дзяцей у польскіх школах*, цяжка штрафуючы за адмову аддаць сваіх дзетак на апаляччаньне.

І калі сабе ўсё гэта ўспомнім, калі падумаем, *да чаго вядзе гэткая дзяржаўная палітыка Польшчы ў адносінах да беларусаў*, дык дзіцячымі і пустымі здаюцца ўсе патугі маскоўскае школьнае ўлады ці прускіх гакатыстаў дэнацыяналізаваць „меншасьці“ праз народную школу. Але тым гарачэйшы пратэст рвецца з грудзей проці таго фальшу, проці таго езуітызму, з якім прадстаўнікі польскага грамадзянства прамаўляюць у Сойме аб „свабодзе“ беларускае асьветы, аб „апецы“ і „дапамозе“ польскае ўлады беларускім школам. Ад часу "wcielenia" Заходняе Беларусі да Польшчы *ўрад зачыніў 350 беларускіх школ і не адкрыў ніводнае*. А тымчасам пасол польскага Сойму Рымар асьмеліваецца гаварыць, што „школы украінскія і беларускія істнуюць—*іх ёсьць многа*, і, калі народ сам іх зажадае, будзе йшчэ больш“.... А ягоны таварыш, пасол Корнэцкі, падцьвярджаючы словы Рымара, жаліцца, што вось чэхі—дык тыя запраўды ўціскаюць у сваей дзяржаве палякоў, бо на 150.000 душ польскага насяленьня тамака ёсьць... толькі 78 польскіх пачаткавых школ!

Гэтая бязглуздасьць, гэты цынізм, з якім прадстаўнікі нацыяналістычна настроенага польскага грамадзянства пазваляюць сабе падобныя заявы, зьяўляецца нечым бязпрыкладным ува ўсім культурным сьвеце. Гэта зьяўляцца ўжо як-быццам „нацыянальным“ *палітычным мэтадам*, які „апатэнтаваў“ і пусьціў у ход пан Язэп Пілсудскі, каторы ўрачыста выракаўся перад усім сьветам генарала Жэлігоўскага і адкідаў ўчасьце польскага ўраду ў аружным заняцьці Вільні, а пасьля тут-жа, ў Вільні, публічна пахваляўся, як гэта ён „лоўка“ ашуківаў Лігу Нацыяў і ўсе дзяржавы Эўропы, адначасна даючы „прыказ“ ген. Жэлігоўскаму „зрабіць бунт“ і ісьці на Вільню....

Але гэты мэтад мае тую хібу, што яго можна ўжыць *толькі адзін раз*... І таму, хто карыстаецца ім, ніхто ўжо ня дасьць веры нават і тады, калі ён будзе гаварыць шчырую праўду.

Няхай гэта добра запамятаюць кіраўнікі польскае дзяржаўнае палітыкі. Мы-ж, беларусы, маем добрую памяць...

## Дзяржава—для народу, ці народ—для дзяржавы.

Фэтышызмам называецца вера некаторых народаў, стаяўшых на найніжэйшай ступені разьвіцьця, што тыя ці іншыя рэчы—„фэтышы“ — могуць мець моц божства, прыпісаную ім веручымі ў гэта людзьмі. Вось, для большасьці польскага грамадзянства такім „фэтышам“ зьяўляецца сучасная Польская дзяржава, абапёртая на так-званым „дэмакратычным“ ладзе.

Для народу, які некалі меў — хоць і далёка ня ідэальную, ды *сваю* дзяржаву, ў працягу звыш сотні гадоў адбудова гэтае дзяржавы была тым ідэалам, тэй пуцяводнай зоркой, якая, здавалася, павінна давясьці яго да высьнёнага раю. Урэшце, ідэал зьдзейсьніўся: Польская Рэспубліка — гэта ўжо рэальны факт. Але, як гэта ні сумна, зьдзейсьненьне нацыянальнага ідэалу не давяло польскага народу да гэнага ўпрагнёнага раю....

Зусім натуральна, што тыя, каму ў *сваей* дзяржаве блага, пачынаюць шукаць прычыны гэтага. А такіх прычын у Польшчы — вельмі многа.... Аднак, большая частка наракаючых і нездаволеных шукае гэтых прычын у-ва ўсім чыста, толькі ня ў самай Польскай дзяржаве. Для бязумоўнай большасьці польскага грамадзянства дзяржава—гэта божства, гэта фэтыш, якога нельга ні чапаць, ні крытыкаваць.

Надовячы мы чыталі аб выступленьні „патрыятычнае“ арганізацыі „Ліга Працы“, якая ў імя захаваньня і ратаваньня Польшчы хоча абярнуць работніцкія масы ў нявольнікаў дзяржавы, ў прыгонятых яе, каторыя павінны працаваць па 10 гадзін у дзень, зрокшыся найвялікшае здабычы работніцкае клясы — васьмігадзіннага рабочага дня.

„Gazeta Warszawska“ йдзе далей. Яна зусім шчыра жадае ад польскага працоўнага народу, каб ён зрокся свайго права быць гаспадаром у сваёй дзяржаве, каб зрокся думак аб вольным жыцьці ў ёй—усё ў імя захаваньня гэтае дзяржавы. Хай усе працоўныя зракуцца свайго шчасьця, хай самахоць узьдзенуць сабе на шыю ярмо сацыяльнае і палітычнае няволі, абы толькі істнавала далей такая Польшча, якая цяпер ёсьць.

Вось, што піша галоўны орган польскіх нацыяналістаў, якія называюць сябе такжа і „дэмакратамі“:

„Хто стаіць на грунце пануючых у-ва ўсей Эўропе ў XIX сталецьці паглядаў, для каго выхадным пунктам зьяўляюцца „правы чалавека і грамадзяніна“, той будзе перш за ўсё руціцца аб тое, каб была здаволена матэматычная справядлівасьць, не зважаючы на тое, як выпаўненьне гэтае справядлівасьці адаб'ецца на долі нацыі і дзяржавы.

„Для каго-ж найвышэйшай мэтай і клопатам, якія зусім запаўняюць ягоную душу, зьяўляецца істнаваньне польскае дзяржавы—вечнае і неперарыўнае, той будзе судзіць аб палітычных установах з пункту гледжаньня іх згоднасьці з мэтай і карыснасьці для быту і разьвіцьця нацыі і дзяржавы“.

Бадай яшчэ ніколі польская эндэцыя ня выказалася гэтак шчыра і да канца. Для яе польская дзяржава—гэта фэтыш. *Не дзяржава істнуе дзеля таго, каб здаволіваць сваіх грамадзян, а грамадзяне істнуюць дзеля таго, каб здаволіваць дзяржаву.* Дзяржава—мэта сама ў сабе, незалежна ад таго, ці дае яна народу шчасьце, ці нясе яму вечную нядолю!

Цяпер зразумелымі робяцца і адносіны польскага нацыяналізму да „нацыянальных меншасьцяў“. І для іх польская дзяржава павінна стацца сьвятыняй, хаця жрэцы гэтае сьвятыні адкрыта заяўляюць, што „меншасьцям“ прысуджана... *сьмерць*!

Так могуць думаць, так могуць прамаўляць толькі людзі, што ў працягу доўгіх гадоў няволі прывыклі бачыць для сябе ратунак толькі ў *сваей* дзяржаве. Такія плады дала сталетняя няволя.

Але такія хворыя, з аднабока разьвітымі мазгамі, людзі ня могуць збудаваць нічога моцнага, нічога трывалага: бо ўжо новае пакаленьне, узгадаванае ў новых варунках—у *сваей* дзяржаве, на першым пляне паставіць здаваленьне дзяржавай іх патрэб і ў меру здаволіваньня іх будзе ацэніваць дзяржаву.

Ды ўжо й цяпер цьвярозыя галовы паддаюць суровай крытыцы гэны дзяржаўны фэтыш. Ня кажучы ўжо аб „нацыянальных меншасьцях“, мы павінны адзначыць сьвядома крытычныя адносіны да польскае дзяржавы двух дыамэтральна процілежных крайніх польскіх кірункаў: крайніх кансэрватараў і крайніх левых. Першыя, лічучы істнаваньне Польшчы на сучасных падставах немагчымым, жадаюць зборную волю народных масаў замяніць воляй адзінкі—*польскага манарха*. Другія, разумеючы, што нічога нельга будаваць выключна на нацыянальным сэнтымэнталізьме, бачаць магчымасьць ратаваньня Польшчы на грунце *дыктатуры* не адзінкі, а наадварот, *працоўных масаў*.

І мы з свайго боку маглі-бы суліць доўгі век Польскай Рэспубліцы толькі тады, калі-б яна пакінула ўрэшце дарогу, на якую яе ўзьвялі рамантыкі з абозу п. Пілсудскага і такія-ж рамантыкі з варожага апошняму эндэцкага абозу, ды калі-б Польшча пачала ўзвадзіць сваю дзяржаўную будоўлю *дзеля шчасьця вялізарнае большасьці сваіх грамадзян—сваіх працоўных масаў*, а ня дзеля пераховываньня фэтыша, *нікога не здаваля-*

